# ПАСЛАННЕ СВЯТОГА ЮДЫ

## (1-25)

[1]Юда, слуга Езуса Хрыста, брат Якуба, — пакліканым, якіх умілаваў Бог Айцец і захаваў Езус Хрыстус. [2]Няхай памножацца ў вас ласка, спакой і любоў.

[3]Умілаваныя, з усёй руплівасцю пішу вам пра нашае супольнае збаўленне. Я палічыў неабходным заахвоціць вас змагацца за веру, раз перададзеную святым. [4]Бо закраліся між вас нейкія людзі, здаўна прызначаныя на гэтае асуджэнне, бязбожнікі, якія ласку Бога нашага замянілі на разбэшчанасць і выракаюцца адзінага Валадара і нашага Пана, Езуса Хрыста.

[5]Хачу нагадаць вам, хоць вы ўсё ведаеце, што Пан вывеў народ з зямлі егіпецкай, а тых, хто не паверыў, знішчыў. [6]Анёлаў, якія не захавалі сваёй годнасці і пакінулі сваё жыллё, трымае ў вечных путах у цемры аж да вялікага суднага дня. [7]Як Садома і Гамора, і навакольныя гарады, што таксама жылі ў распусце і пажадлівасці іншага цела, сталіся прыкладам пакарання вечным агнём.

[8]Тое ж будзе і з гэтымі мройнікамі, якія апаганьваюць цела, адкідаюць Божую ўладу, зневажаюць нябесныя істоты. [9]Нават арханёл Міхал, калі гаварыў з д’яблам, спрачаючыся за цела Майсея, не адважыўся вынесці прысуд znявагі, але сказаў: *«Няхай Пан цябе пакарае!»* [10]А гэтыя зневажаюць тое, чаго не ведаюць, а што, як неразумныя жывёлы, па прыродзе ведаюць, тым сябе знішчаюць. [11]Гора ім, бо пайшлі шляхам Каіна. Дзеля ўзнагароды Балаама ўчынілі ашуканства і загінулі як узбунтаваны Карэй. На вашых гасцінах любові яны — ганьба, банкетуюць з вамі без страху, дагаджаючы сабе! [12]Гэта аблокі бязводныя, што вецер ганяе, гэта восеньскія дрэвы, бясплодныя, цалкам засохлыя і выкаранёныя, [13]гэта дзікія хвалі марскія, што пеняцца сваім сорамам, зоры блукаючыя, для якіх змрок цемры навекі наканаваны.

[14]Прарочыў пра іх Энох, сёмы пасля Адама, кажучы: «Вось прыйшоў Пан з мірыядамі святых, [15]каб учыніць суд над усімі і дакарыць кожнага за ўсе ўчынкі бязбожнасці і за ўсе жорсткія словы, сказаныя супраць Яго бязбожнымі грэшнікамі». [16]Яны заўсёды наракаюць, скардзяцца на лёс, паступаюць паводле сваёй пажадівасці, а вусны іхнія гавораць пыхліва і лісліваць іншым дзеля сваёй карысці.

[17]Вы ж, умілаваныя, памятайце словы, сказаныя раней апосталамі нашага Пана Езуса Хрыста, [18]які кажа вам, што ў апошнія часы з’явяцца насмешнікі, якія будуць паступаць паводле сваіх бязбожных жаданняў. [19]Гэта тыя, хто сее падзелы, кіруецца інстынктамі і не мае Духа.

[20]Але вы, умілаваныя, умацоўвайце сябе на падмурку найсвяцейшай веры вашай і маліцеся ў Духу Святым. [21]Захоўвайце сябе ў любові Божай і чакайце міласэрнасці нашага Пана Езуса Хрыста дзеля жыцця вечнага. [22]Да адных, што сумняваюцца, будзьце міласэрныя; [23]другіх ратуйце, выхопліваючы з агню; яшчэ іншым спачувайце асцярожна, ненавідзячы нават вопратку, апаганеную целам.

[24]А таму, хто можа зберагчы вас ад падзення і паставіць перад абліччам
славы сваёй беззаганнымі і радаснымі, [25]Богу адзінаму, Збаўцы нашаму, праз
Езуса Хрыста, нашага Пана — слава, веліч, панаванне і ўлада перад усімі
вякамі, цяпер і на ўсе вякі вечныя. Амэн.